


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 16 (223) ЛІСТАПАД 2016 ГОДА


**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**

**Не крычала варона ўгару летучы, уніз і пагатове не будзе**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ПРАЦЭДУРА БАНКРУЦТВА ПРЫПЫНЕНА

**Апеляцыйная інстанцыя Эканамічнага суда вобласці прызначыла экспертызу па справе аб банкруцтве ААТ «Гарадоцкі райагропромснаб» з мэтай высвятлення магчымасці аднаўлення плацежаздольнасці даўжніка, паведаміла намеснік старшыні суда Наталля Стэфановіч.**

Рашэнне аб прызнанні банкрутам прадпрыемства і адкрыцці ў адносінах да даўжніка ліквідацыйнага вядзення вынеслі на пачатку кастрычніка. З апеляцыйнай скаргай на гэтае рашэнне звярнулася ўпраўленне па сельскай гаспадарцы і харчаванню Гарадоцкага райвыканкама, якое выступае органам ўладальніцкага нагляду акцыянернага таварыства.

Паводле слоў першага намесніка старшыні райвыканкама Аляксея Маркоўскага, на момант звароту ў суд агульная запазычанасць прадпрыемства складала каля 123 рублёў (да дэнамінацыі). Выплаты зарплаты затрымлівалі на 3 месяцы, памер страт за 2015 дасягнуў 13 млрд рублёў (да дэнамінацыі).

Пасля адкрыцця ў адносінах да гаспадаркі працэдуры эканамічнай неплацежаздольнасці ўдалося аднавіць аб'ёмы вытворчасці, у тым ліку па малацэ гэты паказчык вырас амаль у 2 разы. Сёння прадпрыемства самастойна спраўляецца з бягучымі плацяжамі, зарплата выплачваецца своечасова, удалося захаваць касцяк спецыялістаў.

Надзеі на захаванне прадпрыемствы кіраўніцтва раёна звязвае з магчымасцю прымянення мер, накіраваных на фінансавае аздараўленне сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэтыя магчымасці і вывучаць у ходзе эканамічнай экспертызы. На час яе правядзення разгляд апеляцыйнай скаргі прыпынены.

Вытворчасць па справе аб банкруцтве прадпрыемства распачалі ў снежні 2015 гады па ініцыятыве самога даўжніка. Як сведчыць аналіз фінансавага стану прадпрыемства, яно з'яўляецца неплацежаздольным, пры гэтым неплацежаздольнасць набывае ўстойлівы характар. Агульная сума крэдыторскай запазычанасці перавышае 7,2 мільёна рублёў. Тэрмін ліквідацыі усталяваны па жнівень 2017 года.

ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзабеспячэнне» стварылі ў 2001 годзе шляхам пераўтварэння раённага прадпрыемства па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні аграпрамысловага комплексу. Прадпрыемства спецыялізуецца на вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі (малако, мяса буйной рагатай жывёлы, збожжа, тэхнічных і кармавых культур). Па стане на 1 верасня 2016 года колькасць пагалоўя буйной рагатай жывёлы склала каля 2,2 тысячы, плошча сельгасугоддзяў перавышала 3,2 тысячы га, у тым ліку амаль 1,3 тысячы га раллі.

**БЕЛТА**

РЫНАК ПРАЦЫ

# ДЗЕ НАЙБОЛЬШ ВАКАНСІЙ У ГАРАДОЦКІМ РАЁНЕ?

**Паводле інфармацыі партала Дзяржаўнай службы занятасці па стану на 14 лістапада ў Гарадоцкім раёне маецца 141 вольная вакансія з яшчэ большай колькасцю наяўных працоўных месцаў.**

На пачатку лістапада значна змянілася карціна сярод наяўных вакансій Гарадоччыны. 10 лістапада Гарадоцкая цэнтральнаяраённаябальніцавыставіла свае прапановы на замяшчэнне 32 вакансій: ад лекараў спецыялістаў і фельдшараў да падсобных рабочых, слесараў сантэхнікаў і г.д. Райбальніцы патрабуюцца лекары-спецыялісты, як у бальніцы, так і ў медычных установах сельскай мясцовасці. Пры гэтым прапануемыя заробкі для лекараў спецыялістаў у Селішчы і Мяжы самыя вялікія ў Гарадоцкім раёне — ад 696 рублёў, фельдшарам сельскіх ФАПаў у Вайханах, Пралетарску, Мехавым прапануецца 524 рубля, урачу-афтальмолагу — 640 рублёў.

А на дзень раней аддзел ідэалогіі, культуры і спраў моладзі Гарадоцкага райвыканкаму абнавіў свае прапановы па 25 вакансіях пераважна ў культурных установах раёна. Тут кіраўнікам ансамбляў, акампаніятарам, дырыжорам з вышэйшай адукацыяй на стаўку прапануюцца такія ж заробкі, як і прыбіральшчыкам памяшканняў з сярэдняй адукацыяй — ад 239 рублёў.

На рынку працы засталіся і ранейшыя лідэры па колькасці вакансій — УП «Паўночны, Гарадоцкі лясгас, філіял «Віраўлянскі» канцэрна «Дзецкасельскі». Так у Гарадоцкім лясгасу па ранейшаму патрабуюцца вальшчыкі лесу –3, памочнікі ляснічага — 3, леснікі — 4 і г.д.. Самыя вялікія заробкі на сельгаспрадпрыемствах прапануюцца галоўнаму ветурачу УП «Паўночны» і ветурачу-гінеколагу філіяла Віраўлянскі ад 650 рублёў.

Афіцыйна ў Гарадоцкім раёне зараз зарэгістравана каля 85 беспрацоўных, з якіх 46 чалавек атрымлівалі дапамогу за апошні месяц у памеры ад 21 да 42 рублёў.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ПРЫЗНАЧЭННЕ

# ДЫРЭКТАРАМ СТАЎ БЫЛЫ ДЭПУТАТ З ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**1 лістапада адбылося прадстаўленне новага дырэктара працоўнаму калектыву Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа. Відавочна, што гэта адбылося ў межах працэсу па аб'яднанню двух каледжаў Гарадка ў адну навучальную ўстанову.**

У першы дзень лістапада начальнік абласнога ўпраўлення па адукацыі Віцебскага аблвыканкаму Зміцер Хома прадставіў працоўнаму калектыву Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа новага дырэктара Уладзіміра Шыцько.

Уладзімір Шыцько найперш вядомы, як дырэктар Лужаснянскай гімназіі для здольных дзяцей, якой ён кіраваў на працягу 17 гадоў, пакуль не трапіў у Палату прадстаўнікоў 5 склікання ў 2012 годзе па Віцебскай сельскай акрузе № 21. Але сыходзіў у Палату прадстаўнікоў новы дэпутат як дырэктар Лужаснянскай кадэцкай вучэльні ў якую была пératворана гімназія.

У Палаце прадстаўнікоў Уладзімір Шыцько быў намеснікам старшыні камісіі па бюджэту і фінансам. Менавіта ў Палаце прадстаўнікоў два гады таму назад і дасягнуў Уладзімір Уладзіміравіч пенсійнага ўзросту. У выбарчай кампаніі 2016 года спадар Шыцько ўжо не удзельнічаў. Пад час апошняга пасяджэння Палаты прадстаўнікоў 5 склікання Уладзімір Шыцько заявіў, што павышэння пенсійнага ўзросту пакуль больш не прадбачыцца як таго прапануе Міжнародны валютны фонд.

Нагадаем, што з 1 студзеня 2017 года плануецца аб'яднанне двух каледжаў Гарадку ў адну навучальную ўстанову. І зараз дэ-факта відавочна, што дырэктарам аб'яднанай установы ўладам бачыцца найперш Уладзімір Шыцько.

**Л. Антонаў**

АДПАЧЫНАК

# ЛАДЗЯЦЦА НОВЫЯ ПРАГРАМЫ

Новы калектыў «Live party» Гарадоцкага ГДК з кастрычніка месяца займаецца арганізацыяй моладзевых забаўляльных праграм для моладзі Гарадка ва ўзросце 14-17 гадоў.

З кастрычніка месяца ў Гарадоцкім ГДК ладзяцца новыя забаўляльныя праграмы па суботах з 19.30 да 21.30 для вучняў 9-11 класаў г. Гарадка якія складаюцца з акцый, гульняў, конкурсаў, выступленняў калектываў, флэшмобаў. Пад час восеньскіх канікул такіх праграм будзе праведзена тры, у тым ліку і сёння 6 лістапада.

Удзельнікі забаўляльных праграм шырока прадстаўлены на старонцы Гарадоцкага ГДК Ўкантакце: https://vk.com/gdk_official. У гэтай групе ўжо больш 500 удзельнікаў.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэцца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

АДУКАЦЫЯ

# ЗАБАРАНІЛІ АДЗНАЧАЦЬ ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

**Дакумент «Аб святах» адрасаваны кіраўнікам устаноў адукацыі вобласці за подпісам Дзмітрыя Хомы — начальніка ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама — ён забараняе святкаванне Хэлоўіна і Дня Закаханых у школах і вучэльнях.**

Чыноўнік аблвыканкама выказвае «заклапочанасць умацаваннем у свядомасці навучэнцаў дэструктыўных падмуркаў сучаснай масавай культуры».

«З'яўляючыся прадуктам сучаснай масавай культуры Захаду, гэтыя гэтак званыя «святы» не адносяцца ні да рэлігійных святаў якойсьці з канфесій, зарэгістраваных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ні да свецкіх святаў нашай дзяржавы. [Яны] носяць дэструктыўны характар, падрываюць падмуркі маралі, сям'і і нацыянальных традыцый беларускага народа», — гаворыцца ў лісце.

Сучасная моладзь, сцвярджае аддзел адукацыі Віцебскага аблвыканкама, «разнявольвае жывёльныя інстынкты», адзначаючы Хэлоўін.

Дапамагаюць ёй у гэтым, сцвярджаецца, «цёмныя» задавальненні ў начных клубах: алкаголь, тытунь і наркотыкі.

Калі Хэлоўін крытыкуюць і царкоўныя іерархі, а таксама палітыкі-кансерватары, то Дзень Закаханых раней пад крытыку не трапляў.

Праўда, каталіцкія святары заклікалі не камерцыялізаваць яго, а Расійская праваслаўная царква ў піку яму спрабуе прышчапіць культ святых Пятра і Фяўронні, але ў Беларусі ён мала распаўсюджаны.

Сваю антыпатыю да Дня Закаханых чыноўнікі тлумачаць блытана.

«Дадзенае свята адзначаецца так шырока, што многія ўстановы адукацыі аказаліся ўцягнутыя ў гіганцкую масавую індустрыю інфармацыйна-ідэалагічнага і эканамічнага характару (набыццё навучэнцамі паштовак)», — так тлумачыцца ў загадзе.

Чыноўнікі зачапіліся за тое, што Дзень святога Валянціна ўзнік у Старажытным Рыме ў перыяд яго «маральнай і палітычнай дэградацыі».

Сыходзячы з пералічаных довадаў, установам адукацыі настойліва рэкамендуюць адрачыся святкавання гэтых дзён і прыняць іх з выхаваўчых планаў.

Няўжо Дзень Закаханых настолькі вялікая праблема для адукацыі, каб рассылаць адмысловыя загады?

«Наша Ніва» спытала пра гэта самога Дзмітрыя Хому, але той быў заняты і даручыў адказаць на пытанні свайму намесніку — Валерыю Кунашка, начальніку аддзела выхавання.

«Вы на мове размаўляеце, мяркуючы па ўсім, хрысціянінам з'яўляецеся, ну навошта вам гэтыя святы чужыя? — сходу адказаў Кунашка. — Гэта не нашыя, не нацыянальныя святы, тым больш у вас, размаўляючы па-беларуску… Вы павінны наадварот — падтрымліваць…»

«Гэтае свята [Хэлоўін] не было ніколі, не святкавалася. Апошнім часам яго ўнеслі ў моладзевы асяродак — у начных клубах… Я думаю што і следства, якае вядзецца па гэтым выпадку з бензапілой у гандлёвым цэнтры ў Мінску… Ён таксама хацеў і ў МІТСО пранесці, і гэтак далей… Разумееце, вера ў злых духаў, што ўсе яны прапагандуюць, гэта шкодна для маладых псіхічна не загартаваных маладых людзей. Для іх гэта не ёсць добра», — працягнуў чыноўнік.

Чыноўнікі спадзяюцца перамагчы глабалізацыю сваімі ўказамі? — спыталіся мы.

«Хай адзначаюць нашыя Калядкі, Саракі. І вам, беларускамоўнаму, і газеце, як нікому трэба прапагандаваць нашыя нацыянальныя святы. А не чужыя нам, прынесеныя звонку. Я скончыў гістфак БДУ, прыехаў і першы раз пачуў, што такое Дзень Святога Валянціна — цэлая індустрыя, паштовачкі гэтыя трэба купляць…».

Скончыў свой адказ чыноўнік тым, што «ўсе беларускамоўныя мусяць падпісацца пад гэтым лістом», бо «нават на калегіі Мінадукацыі гаварылася, што гэта абсалютна чужыя нам святы».

**Наша Ніва**

КРЫМІНАЛ

# СПРАВА ЗА РАСПАЎСЮД ПАРНАГРАФІІ

**«Гарадоцкі веснік» паведаміў аб узбуджэнне крымінальнай справы ў адносінах да жыхара г.п. Езярышча па арт. 343 ч.2 Крымінальнага кодэксу РБ.**

На пачатку лістапада ўзбуджана крымінальная справа у адносінах да 33-гадовага жыхара Езярышча, які на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы УКантакце размясціў больш дзесятка фота парнаграфічнага зместу. На гэтыя фота звярнуў увагу адказны супрацоўнік міліцыі, які па пэўнай праграме вывучае змест акаўнтаў у сацыяльных сетках. Рэспубліканская экспернтная камісія прыйшла да заключэння, што дадзеныя фотаздымкі з'яўляюцца парнаграфіяй.

Зараз у адносінах да езярышчанца ўзбуджана крымінальная справа па артыкулу 343 частка 2 КК РБ, якая прадугледжвае за выкарыстанне сеціва для размяшсэння парнаграфіі пазбаўленне волі на таэрмін ад 2 да 4 гадоў.

Нагадаем, што па вясне ў Гарадку разглядалася падобная справа, якая абмежавалася адміністрацыйным пакараннем пасля вывучэння ўсіх яе абставін.

**Л. Антонаў**

# АДРАЗУ ЗНАЙШЛІ ЗЛАЧЫНЦА

**Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Гарадоцкага РАУС адразу быў знойдзены злачынец, які абрабаваў дом непрацуючага дзесьці пасля 20 чэрвеня.**

У Гарадоцкі РАУС 9 лістапада ў 16 гадзін звярнуўся непрацуючы 1959 года нараджэння. Грамадзянін паведаміў, што ў перыяд з 20 чэрвеня па 21 кастрычніка неўсталяваны злачынец, сарваўшы навясны замак, пракраўся ў яго дом. З дома былі скрадзены наступныя рэчы: алюмініевы посуд, ліхтарык і вуда. Шкода нанесена ў памеры 97 рублёў.

Супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Гарадоцкага РАУС устаноўлена, што злачынства здзейсніў непрацуючы 1974 года нараджэння, які затрыманы за ўчыненне адміністрацыйнага правапарушэння.

Гарадоцкім аддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК.

**Т. Гаражанка**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЯК КРУТА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

**1 лістапада. Бельск-Падляскі. Польшча. Ліе дождж, вечар. Дзень памяці продкаў. Закрытыя крамы, кавярні і сэрвісы.**

І менавіта ў гэты бязьлюдны вечар мы на сваёй сямейнай машыне адным неасьцярожным націскам на пэдаль газу ўмомант разнасцілі наша падарожжа па Падляшшы. Здаючы назад, на здаравенную бэтонную пліту, якая мірна ляжала на траве. Узьехаўшы на тую пліту і, па гуку мне здалося, успароўшы ўсе, якія магчыма, аўтамабільныя вантробы.

Як высьветлілася па зьезьдзе з «пастамэнту», у машыне быў варваны паліўны радыятар і, адпаведна, перарваны паліўны правад. Салярка ўпэўненым струмянём вылівалася на мокры асфальт. Мы з жонкай і дзецьмі сумна праводзілі гэты струмень вачыма. А я маляваў сабе бліжэйшую пэрспэктыву. З даражэнным эвакуатарам. З сэрвісам на некалькі дзён. Бо што ўзяць зь небаракаў з-за Бугу, акрамя трайной аплаты? З доўгаю дарогаю дадому. Спачатку цягнікам да Беластока, потым аўтобусам да Горадні. І чым далей, тым настрой усё больш станавіўся абыякавым.

А далей пачаўся цуд. Цуд беларускай салідарнасьці. Жонка згадала, што муж яе сястры Сяргей родам з Падляшша. Ягоны дзед пакінуў родную вёску Мокрае ў 1946-м, заваблены ў сталінскі рай савецкімі агітатарамі. Што ў Бельску жыве ягоны аднавяскоўцы! Не сваяк, але ж зямляк. Чалавек з самога Мокрага! Даведаліся нумар, патэлефанавалі.

І тут жа былі запрошаныя ў госьці.

А зямляк, дабрадушны таўстун у акулярах, зь дзіўнай беларуска-польска-расейска-падляскай мовай, да нашага прыходу ўжо накрыў стол і падрыхтаваў ложкі для начлегу. А далей зьвязаўся зь нейкім Андрэем, знаёмым вадзілам-дальнабойшчыкам. «Людзі зь Беларусі пацярпелі крушэньне». А той Андрэй пазваніў сваёму брацельніку-аўтамэханіку. Але той брацельнік быў ня дома і параіў свайго швагра. А той швагер брацельніка Андрэя азваўся дапамагчы. Толькі каб па яго заехалі ў недалёкую ад Бельска вёску.

Андрэй пагнаў свой рэно з хуткасьцю «хуткай» дапамогі пад пераробленую верасоўскую «Завіруху», перапетую ў больш хуткім тэмпе. «Гэта Радыё Рацыя»? — спытаў я. «То не, — адказаў Андрэй, — гэта дыск. Купіў у Беластоку. Нейкія беластоцкія пяюць нашы песьні». А швагер Павал ужо чакаў нас апрануты ў рабочае адзеньне. І праз паўгадзіны машына была гатовая. Паліўны провад злучаны. На маё пытаньне — «колькі?» адказам былі ўсьмешкі. Мауляў, свае людзі, колькі той працы, не перайма́йся.

Я глядзеў на ўсё, што адбываецца і адчуваў проста неверагодны гонар за беларусаў. Я ж не чачэнец. Не армянін. І не таджык. Не прадстаўнік якой іншай нацыі, дзе крэўная салідарнасьць не пусты гук. Але што гэта такое на смак мне было прадэманстравана на Падляшшы. І я не магу сказаць, што мне гэта не спадабалася. У дзень, калі ў Польшчы зачыненыя амаль усе дзьверы, мы былі адрамантаваныя, абагрэтыя, накормленыя і ўладкаваныя. Зь Пятром мы прагаманілі амаль да раніцы.

Беларусы! Не кідайце адзін аднаго! Ні на дарозе, ні ў хаце. Быць беларусам — гэта крута! Ну і на мяне можаце разьлічваць! Заўжды!

**Зьміцер Бартосік**
**Свабода**

БУДАЎНІЦТВА

# АДНОЎЛЕНЫ ПРАЦЫ НА БАСЕЙНЕ

**З сярэдзіны кастрычніка аднаўлена праца на будаўніцтве басейна па вуліцы Гагарына, які з'яўляецца гістарычным даўгабудам Гарадка.**

Будаўніцтва басейна на вул. Гагарына распачалося яшчэ на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя Гарадоцкай птушкафабрыкай. Але пагаршэнне фінансавага становішча прадпрыемства не дазволіла ў той час ажыццявіць будаўніцтва фізкультурна-аздараўленчага комплекса, які ўключаў па планах і басейн. Рашэнне Савета Міністраў дзесьці ў 1997 годзе аб стварэнні на гэтай базе Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту таксамане выправіла сітуацыю.

Але на пачатку гэтага стагоддзя гатэль быў перададзены ЦАП «Раўбічы» і ён распачаў сваю працу. Праз дзесяцігоддзе да гатэля быў далучаны і спартыўны зал з будынкам пад басейн.

Асаблівыя надзеі жыхароў Гарадка на ажыццяўленне планаў па будаўніцтву басейна ўзніклі ў час падрыхтоўкі райцэнтра да «Дажынак 2014», якія спачатку планаваліся зрабіць рэспубліканскімі. Толькі доўгія ўзгадненні праектнай дакументацыі, даследаванні зямлі на наяўнасць угнаенняў адклалі гэтыя планы на будучыню.

Нарэшце напрыканцы 2014 года сесія Віцебскага абласавета зацвердзіла інвестыцыйны план Віцебшчыны на 2015-2016 гады, дзе быў зноўжа і «Фізкультурна-аздараўленчы комплекс у г. Гарадок (уключаючы праектна-пошукавыя работы)». За гэтыя два гады будаўнікі то з'яўляліся на будаўніцтве басейна, то на доўгія месяцы знікалі. І вось зараз у кастрычніку працы аднаўлены.

Будаўнікі зараз праводзяць працы па ўцяпленню металёвага каркасу басейна і мусіць маюць намер закрыць будынак да снегу ў зімовы час. Відавочна, што да новага года праца па будаўніцтву басейна не будзе завершана, бо зноў мусіць узнікнуць праблемы з фінансаваннем аб'екта. Але ж вельмі жадаема, каб гэты даўгабуд у чвэрць стагоддзя быў бы завершаны ў 2017 годзе.

**Л. Антонаў**

БЕЛАРУСЬ — ЗША

# НІ ХОЛАДНА, НІ ГОРАЧА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Выбары ў ЗША, якімі быў заклапочаны ўвесь свет, нарэшце прайшлі. Амерыка «падбівае вынікі», а той самы свет варожыць, якой будзе палітыка Злучаных Штатаў у дачыненні да іх. Не выключэнне тут і Беларусь.**

Апошнімі часамі абодва бакі — як Злучаныя Штаты, так і Сінявокая — прыклалі даволі шмат намаганняў, каб выйсці ў двухбаковых адносінах з таго стану глыбокай замарозкі, якая доўжыцца амаль дзесяцігоддзе.

Нагадаем, у 2004-м у ЗША быў прыняты «Акт пра дэмакратыю ў Беларусі», які патрабуе спынення ў краіне рэпрэсій супраць іншадумцаў і ўводзіць санкцыі супраць некаторых галінаў беларускай эканомікі. Цікава, што згодна гэтаму дакументу прадстаўнікі ЗША ў МВФ павінны галасаваць супраць надання Беларусі крэдытаў з гэтай структуры.

З-за рэпрэсій на выбарах 2006 года ў 2007-м пад санкцыі патрапіў канцэрн «Белнафтахім» — «цяжкавагавік» у гандлі з ЗША. У дадатак пэўныя дзяржпрадпрыемствы і банкі былі заўважаныя ў парушэнні міжнароднага эмбарга адносна Ірана, і таксама ўвайшлі ў «санкцыйны спіс». У адказ Мінск значна скараціў сваё дыппрадстаўніцтва ў Вашынгтоне і запатрабаваў парытэтнага скарачэння дыпмісіі ЗША ў Беларусі. У сакавіку 2008 года колькасць супрацоўнікаў пасольства Злучаных Штатаў была скарочана з 35 чалавек да 5, Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула пасол Карэн Сцюарт. З тых часоў пасла ЗША ў краіне няма.

Аднак усё цячэ, усё змяняецца. З 2014 года адносіны цяплеюць. Вашынгтон ацаніў міратворчую дзейнасць уладаў Беларусі ў расійска-украінскай вайне і зняў санкцыі з некаторых беларускіх прадпрыемстваў. Аўтаматычна зняліся санкцыі з тых, хто патрапіў пад іх праз супрацоўніцтва з Іранам — калі эмбарга з Ірана было знятае….

Далей за амерыканцаў пайшоў, канешне ж, Аляксандр Лукашэнка. Падчас галасавання на парламенцкіх выбарах 11 верасня ён заявіў, што «пасол (ЗША ў Мінску) абавязкова будзе». «Мы пра гэта, у прынцыпе, дамовіліся. Я думаю, што пасля выбараў у ЗША мы вырашым гэтую праблему».

Аптымізму Аляксандра Рыгоравіча можна пазайздросціць, але эксперты яго не падзяляюць. «Не трэба думаць, што ў Дональда Трампа, які стаў прэзідэнтам ЗША, у кабінеце будзе такі ж глобус, як у Аляксандра Лукашэнкі, і што ён неяк заклапочаны Беларуссю, — кажа міжнародны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — Выбары амерыканскага прэзідэнта на Беларусі не адаб'юцца ніяк».

Наконт аднаўлення ў нашай краіне працы пасла ЗША, Якаўлеўскі зазначае, што гэты працэс ідзе, але падкрэслівае, што ён — не хуткі: пасла павінны абраць, зацвердзіць і гэтак далей. «Гэта вельмі доўгая працэдура ў ЗША», — кажа эксперт. Але «трэнд на наладжванне адносінаў ёсць, і я лічу пазітыўнай і важнай падпісаную нядаўна заяву пра ваеннае супрацоўніцтва Беларусі і ЗША», кажа Якаўлеўскі.

З Актам пра дэмакратыю ў Беларусі ўсё яшчэ больш складана, чым з паслом. «У свой час Аляксандр Лукашэнка здзейсніў выдатнае палітычнае дасягненне — гэта першы закон, спецыяльна па Беларусі, у гісторыі ЗША, прыняты аднагалосна. Я не думаю, што так проста будзе яго прыбраць, тым больш, што прычыны, якія яго спарадзілі, у Беларусі не ліквідаваныя», — адзначае міжнародны аглядальнік.

«Я не бяруся сказаць, што новы прэзідэнт адзначыць свой тэрмін такім дзеяннем, як адмена Акта пра дэмакратыю. Тым больш, што ён мае свае асаблівасці, ён дзейнічае не поўнасцю. Некаторыя артыкулы з яго ўключаюць, некаторыя — выключаюць», — кажа Якаўлеўскі. І ад асобы кіраўніка ЗША ў гэтым дакуменце не вельмі шмат што і залежыць, бо прымае яго Кангрэс, а прэзідэнт толькі падпісвае.

Не чакае хуткіх зменаў у ЗША ў адносінах да Беларусі і палітолаг Валер Карбалевіч. «Хто б ні перамог у Злучаных Штатах, яго першыя праблемы — зусім не Беларусь. У новага прэзідэнта будзе шмат іншых праблем і пытанняў, і да Беларусі, калі тут, зразумела, нічога экстраардынарнага не здарыцца, чарга дойдзе вельмі не хутка. Таму ў дачыненні да Беларусі будзе пэўная сіла інерцыі, і пакуль не падыдуць тэрміны, ніхто не будзе гэтыя пытанні ўздымаць», — лічыць Карбалевіч.

Змяніць сітуацыю, па меркаванні Карбалевіча, можа толькі беларускі бок. «Калі б у Беларусі, напрыклад, раптам настала поўная дэмакратыя, то рэакцыя амерыканскага ўрада была б адпаведная. Але чакаць дэмакратыі бліжэйшым часам не выпадае, і таму, я думаю, у кароткатэрміновай перспектыве статус-кво ў адносінах Беларусі і ЗША захаваецца», — адзначае эксперт.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**




АНАЛІТЫКА

# ЭЛЕКТАРАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ ІМЯ ДОНАЛДА ТРАМПА

**Тое, ува што не хацелі верыць палітыкі, эксперты, аглядальнікі, адбылося. Насуперак абсалютнай большасьці прагнозаў. Амэрыканская электаральная сэнсацыя чарговым разам пасароміла ўсіх тых, хто ўпэўнена лічыў, што ведае, паводле якіх правілаў і заканамернасьцяў разьвіваюцца палітычныя працэсы. Цяпер прыйшоў час вывучаць урокі.**

Найперш тое, на што ўжо зьвярнулі ўвагу назіральнікі. Амэрыканскія выбары прадэманстравалі разрыў паміж элітай і народам. Гучаць зьвыклыя тэзы пра паўстаньне масаў. Бо амаль усе мэдыі, зоркі палітыкі, шоў-бізнэсу, культуры і спорту агітавалі за Клінтан.

Другая важная, хоць і банальная выснова. Для перамогі ў такіх буйных электаральных кампаніях патрэбная харызма. Апэляваць да эмоцыяў важней, чым зьвяртацца да рацыё.

І самую галоўную выснову, якая вынікае з амэрыканскіх выбараў, можна сфармуляваць так: палітык павінен адчуваць нацыю, адэкватна адлюстроўваць яе мэнтальныя імпульсы, яе калектыўнае падсьвядомае, яе ўнутраны голас, глыбінныя нацыянальныя архетыпы. Дональд Трамп прадэманстраваў псыхалягічную сумяшчальнасьць, каштоўнасную роднасьць з сваім электаратам, з усімі ягонымі фобіямі, забабонамі і мітамі. Ён часта апэляваў да падсьвядомасьці і інстынктаў свайго выбаршчыка, да ягоных супярэчлівых уяўленьняў пра палітыку. Вось шмат пісалі, што Трамп часта супярэчыў сам сабе, мяняў свае погляды. Дык і звычайны абывацель гэтак думае, шукаць у ягоных развагах пра палітыку бездакорнай лёгікі не выпадае.

Менавіта таму цяпер цяжка рабіць прагнозы пра будучую палітыку прэзыдэнта ЗША Доналда Трампа. Бо тэзы, якія ён вылучаў падчас выбарчай кампаніі, даволі супярэчлівыя, прычым па ходу кампаніі яны мяняліся. Варта адзначыць, што Трамп тройчы мяняў партыйную прыналежнасьць.

Таксама трэба мець на ўвазе, што будучы прэзыдэнт ніколі не займаў значных дзяржаўных пасадаў, яму не даводзілася прымаць палітычныя рашэньні. Можна казаць, што ён навічок у замежнай палітыцы. Да таго ж усім вядома, што перадвыбарчая рыторыка і рэальная палітычная лінія — розныя рэчы.

Акрамя таго, можна мець пэўныя намеры, але часта яны разьбіваюцца аб суровую рэальнасьць. У гэтым пляне добры прыклад — палітыка дзейнага прэзыдэнта Барака Абамы. Ён перамог на прэзыдэнцкіх выбарах пад міралюбнымі лёзунгамі, абяцаньнямі вывесьці амэрыканскія войскі з Аўганістану і Іраку, адмовы ад усясьветнага паходу за дэмакратыю. (І Трамп лічыць, што Амэрыцы трэба менш умешвацца ў справы за мяжой, асабліва на падставе праблемаў з правамі чалавека.)

Сёньня, мусіць, усе забыліся, што на пачатку сваёй дзейнасьці адміністрацыя Абамы абвясьціла пра «перазагрузку» ў адносінах з Расеяй. З такой ідэяй прыехала ў Маскву тагачасная дзяржсакратар ЗША Гілары Клінтан. Ідэя перазагрузкі фактычна азначала адмову Злучаных Штатаў канкураваць з РФ за кантроль над постсавецкай прасторай, Вашынгтон прызнаваў гэты рэгіён расейскай дзялянкай. А ў выніку канфлікт ЗША з Расеяй з прычыны дзеяньняў Масквы на постсавецкай прасторы (ва Ўкраіне) прывёў да нябачанай з моманту распаду СССР расейска-амэрыканскай канфрантацыі.

З гэтай гісторыі можна зрабіць выснову, што існуе лёгіка палітычнага працэсу, якая мацнейшая за намеры і жаданьні. Таму ці не заўчасная эйфарыя, якая цяпер дамінуе ў расейскіх мэдыях і сярод палітычнай эліты РФ?

Што тычыцца беларуска-амэрыканскіх адносін. Цяжка сказаць, калі ў новай адміністрацыі Трампа дойдуць рукі да Беларусі. А пакуль будзе дзейнічаць лёгіка каляіны, інэрцыя існай палітыкі.

Дарэчы, хачу нагадаць, што ў ЗША існуе заканадаўчы акт пад назвай «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі». Паводле яго амэрыканскія прадстаўнікі ў міжнародных фінансавых арганізацыях не павінны галасаваць «за» ў пытаньні выдзяленьня Беларусі крэдытаў. Падчас рашэньня аб крэдытаваньні фондам Беларусі мінулым разам прадстаўнікі ЗША ўстрымаліся.

Але ёсьць адчуваньне, што ўсіх нас чакаюць вялікія перамены.

**Валер Карбалевіч**
**Радыё Свабода**

ДЭКАМУНІЗАЦЫЯ

# ШТО СЬВЯТКУЕ БЕЛАРУСЬ 7 ЛІСТАПАДА

**Чаму Беларусь адзначае гадавіну камуністычнай рэвалюцыі ў Расейскай імпэрыі, а Расея — не?**

**Карбалевіч:** Беларусь — адзіная краіна ў сьвеце, дзе Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі сьвяткуецца як дзяржаўнае сьвята, выходны дзень. Варта зазначыць, што гэта ў пэўным сэнсе супярэчыць афіцыйнаму ідэалягічнаму канцэпту. Антырэвалюцыйнасьць даўно стала яго галоўным элемэнтам. Да сучасных рэвалюцыяў беларуская ўлада ставіцца скрайне нэгатыўна. «Каляровыя рэвалюцыі», Майдан, у дзяржаўных мэдыяў выклікаюць толькі лаянку.

Дзяржаўныя СМІ асуджаюць рэвалюцыі паўсюдна: у Сэрбіі, Украіне, Грузіі, Кыргызстане, арабскіх краінах. Яны даводзяць, што дзяржаўная ўлада, якая б яна ні была — рэч сакральная. А рэвалюцыі — гэта гвалт, хаос. Па БТ увесь час ідуць фільмы, перадачы, якія паказваюць, да якіх нэгатыўных наступстваў прывялі рэвалюцыі ў тых краінах, дзе яны адбыліся. Лукашэнка нават папікаў АДКБ за тое, што яна не бароніць кіроўных уладароў ад народнага пратэсту…

Адразу пасьля краху СССР і камуністычнага рэжыму гэтае сьвята было адмененае. Лукашэнка ізноў абвясьціў гэты дзень сьвятам у 1995 годзе, разам з правядзеньнем рэфэрэндуму пра сымболіку і мову. Гэта быў пік настальгіі па СССР. Адначасова быў абвешчаны курс на інтэграцыю з Расеяй, якую шмат хто лічыў крокам па рэанімацыі Савецкага Саюзу. Гэта быў курс на сацыяльны, палітычны і гістарычны рэванш. На гэтай хвалі апэляцыя да Кастрычніцкай рэвалюцыі давала кіраўніку Беларусі дадатковыя палітычныя дывідэнды.

Але гэта хутка прайшло. Чым далей, тым больш настальгія па СССР зьмяншалася. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі грамадзтва пачало ставіцца індыфэрэнтна. Палітычных дывідэндаў гэта не дадавала. У выніку шмат гадоў улады фактычна ніяк не сьвяткавалі дзень 7 лістапада на дзяржаўным узроўні. Толькі чальцы камуністычнай партыі ўскладалі вянкі і кветкі да помніка Леніну. Часам мясцовае кіраўніцтва да помніку Леніну зганяла моладзь і дзяцей па разнарадцы. Але адмовіцца ад таго сьвята, якое сам устанавіў, Лукашэнку цяжка.

Але ёсьць і яшчэ адзін чыньнік. Справа ў тым, што беларуская сацыяльная мадэль у пэўным сэнсе зьяўляецца спадкаемцай савецкай сыстэмы. Таму існуе ідэйная і палітычная повязь з Кастрычнікам. Таму Лукашэнка час ад часу выказвае сымпатыі да тых ідэяў, заяўляе, што «Ленін і Сталін — сымбалі нашага народу», перайманоўвае станцыю мэтро «Плошча Незалежнасьці» у «плошчу Леніна», што стварае вельмі дзіўнага кентаўра: плошчы Леніна няма, а мэтро з назвай «Плошча Леніна» — ёсьць.

Сам Лукашэнка 6 лістапада 2012 году, падчас адкрыцьця новых станцыяў мэтро ў размове з журналістамі сказаў пра гэтае сьвята: «Мне прымальныя ўсе ідэі, зь якімі рэвалюцыянэры ішлі да народу. Тады яны ішлі з добрымі ідэямі: зямля — сялянам, фабрыкі — рабочым, навядзеньне парадку, выратаваньне краіны і г.д. Ніводнага дрэннага лёзунгу не было. І пад гэтымі лёзунгамі рэвалюцыя перамагла... Гэтыя нэгатыўныя працэсы, калі забівалі людзей і наогул адышлі ад ідэй, дэклараваных напярэдадні рэвалюцыі, — гэта было няправільна, але гэта было потым, і мы гэта асуджаем. Але нельга ў сувязі з гэтым ганіць тое, што было ў 1917 годзе, і наогул пускаць пад нож тыя добрыя ідэі, зь якімі Ленін і яго каманда ішлі на гэтую рэвалюцыю».

Неяк дзіўна адрываць ідэі і лёзунгі рэвалюцыі ад грамадзянскай вайны і тэрору, якія зьявіліся пасьля. Бо яны былі непасрэдным вынікам рэвалюцыі. Тэрор і масавыя забойствы былі найпраставымі наступствамі тых ідэй, якія, як аказваецца, сёньня прымальныя для Лукашэнкі.

**Цыганкоў:** Беларусь — краіна ідэалягічных парадоксаў. Антырэвалюцыйная ўлада, мантрай якой зьяўляецца стабільнасьць і парадак, адзначае гадавіну рэвалюцыі.

Але парадаксальным чынам сьвяткаваньне гадавіны рэвалюцыі для цяперашняй беларускай улады якраз азначае захаваньне стабільнасьці і старых каштоўнасьцяў. Менавіта на ідэі захаваньня стабільнасьці савецкіх каштоўнасьцяў Аляксандар Лукашэнка і прыйшоў да ўлады. І, паводле інэрцыі, ня так зацята, як раней, але ўлада застаецца прыхільнай да левых, сацыялістычных і савецкіх каштоўнасьцяў.

Лукашэнка пакуль не зьбіраецца адмаўляцца ад гэтага сьвята, хаця і разумее, што тэма даўно «астыла» і не выклікае захапленьня ў грамадзянаў. Магчыма, пэўнае ажыўленьне чакае нас у 2017 годзе, калі будзе сьвяткавацца стагодзьдзе Кастрычніцкага перавароту.

Напэўна, левыя палітычныя сілы будуць праводзіць пэўныя мерапрыемствы — але рэакцыя дзяржавы, я думаю, будзе дастаткова млявай і абыякавай…

Калі грамадзтва зьменіцца — магчыма, будзе адбывацца і больш рашучая «дэленінізацыя». Але пакуль грамадзтва дастаткова абыякавае да гэтай тэмы, вялікага антыкамунізму ў большасьці беларусаў няма. Грамадзтва ў сваёй большасьці не патрабуе актыўнай дэкамунізацыі, дзяржаўнасьць сьвята 7 лістапада не выклікае масавых пярэчаньняў — акрамя як у нацыянальна-дэмакратычнай часткі грамадзтва.

**Дракахруст:** У 90-я гады і напачатку нулявых ушанаваньне Кастрычніцкай рэвалюцыі, апроч ідэалягічных і палітычных функцыяў, выконвала для беларускай улады і функцыю ўтварэньня нацыі. Наўпрост ніколі не гаварылася, але ўскосна даводзілася, што Беларусь не Расея таму, што беларусы захавалі вернасьць свайму камуністычнаму мінуламу. Расея, маўляў, гэтай спадчыне здрадзіла, запэцкалася, разьвяла ў сябе алігархаў, якія ўсё пакралі, а Беларусь засталася чыстая і верная.

Менавіта таму, паводле гэтага бачаньня, Беларусь і мусіла захоўваць свой сувэрэнітэт і не аб'ядноўвацца з Расеяй. Формулу Лукашэнкі «Ленін і Сталін — сымбалі нашага народу», агучаную ў 2006 годзе, нельга ўявіць сабе ня толькі ў вуснах Ельцына, але і Пуціна, і больш рэпрэсіўных, чым Лукашэнка, дэспатаў кшталту Карымава ці Ніязава. Дарэчы, у Ташкенце ў цэнтры гораду ёсьць музэй памяці ахвяраў камуністычнага тэрору. Пуціну і Карымаву для кіраваньня камуністычныя правадыры не былі патрэбныя, а Лукашэнку — патрэбныя.

Цяперашняму наступу «рускага сьвету», ідэі культурна-этнічнага адзінства, у Беларусі таксама супрацьпастаўляецца савецкая ідэя.

Але, гледзячы па ўсім, гэта сапраўды сыходзячая натура. І цяперашнія спробы ўлады заігрываць і з вышыванкамі, і з беларускай мовай — гэта пошук таго, што ў сэнсе нацыянальнай мабілізацыі працуе лепш, чым савецкі наратыў.

*(скарочана)*

**Праграма "Трайны ўдар"**
**Радыё Свабода**

МАЛЫ БІЗНЕС

# «КУДА УХОДЯТ ЛЮДИ ИЗ ИП? НА ШЕЮ … ГОСУДАРСТВА»

**С начала года число ипэшников в стране сократилось на 4,5 тысячи. Как это скажется на экономике и что будет с индивидуальными предпринимателями дальше?**

**Шумченко: Начала рушиться вся цепочка**

Лидер РОО «Перспектива» Анатолий Шумченко называет свежие данные Белстата за январь-сентябрь вполне ожидаемыми. Ведь в прошлом году число ИП в Беларуси сократилось больше чем на 8 тысяч человек.

– Тенденция, как видим, сохранилась. Это еще оптимистичные цифры, которые пришли через Министерство юстиции. К концу года они должны быть еще более внушительными, много людей находятся пока в стадии ликвидации ИП, – отмечает Анатолий Шумченко.

По его информации большинство закрывших свой бизнес работало в сфере розничной торговли, и их уход является существенным ударом по бюджету.

В прошлом году, по подсчетам РОО «Перспектива», розничную торговлю покинуло около 3 тысяч индивидуальных предпринимателей. Только из-за их ухода потери бюджета составили 19 млн долларов, отмечает Анатолий Шумченко. Но есть и другие негативные последствия.

**– Куда уходят люди из ИП? На шею государства!** Лично знаю примеры, когда бывшие предприниматели шли на убыточные государственные предприятия и воспитателями в детские сады, – говорит лидер РОО «Перспектива».

По его мнению, Указ № 222 о сертификации продукции легпрома оказался провальным. Количество налогоплательщиков сокращается.

— Если в ближайшее время ничего не изменится, розничной торговле как виду деятельности ИП останется существовать 2-3 года. Сегодня мы наблюдаем, как сознательно уничтожается целый экономический класс, — констатирует Анатолий Шумченко.

На сегодня в стране около 250 тысяч индивидуальных предпринимателей. Но их уход из розничной торговли негативно скажется на бизнесе и в других сферах, полагает Анатолий Шумченко.

– Предприниматели, которые оказывали услуги и торговали на рынках, поддерживали друг друга, тратили деньги там, где работают их коллеги. Предприниматель как потребитель был очень привлекательным клиентом. Теперь начала рушиться вся цепочка. Если кто-то думает, что ИП уйдут только из розничной торговли, а остальные останутся, то он глубоко заблуждается, – говорит Анатолий Шумченко.

***Желиба: Сокращение числа ИП – вопрос не столько экономический, сколько социальный***

Доктор экономических наук Борис Желиба считает, что о значительных последствиях для белорусской экономики в связи с сокращением числа ИП на 4,5 тысяч человек говорить не стоит.

– Вклад индивидуальных предпринимателей в ВВП страны всегда был незначительным. Наши ИП, как известно, в основном заняты в сфере розничной торговли. С другой стороны, миллионы долларов налогов, которые платили ИП, пусть и терялись на общем фоне, но со временем их нехватка скажется в местных бюджетах. В теперешних условиях приходится считать не то, что каждый миллион, поступающий в казну, а каждый доллар, – говорит экономист.

Вместе с тем Борис Желиба отмечает:

– Вопрос об уходе людей из малого бизнеса не столько экономический, сколько социальный. Какое будущее ждет этих людей, сумеют ли они в условиях кризиса найти работу и не попасть под действие декрета о тунеядцах?

Доктор экономических наук прогнозирует, что число ИП будет сокращаться и дальше, но не такими темпами, как в последнее время.

– Наверное, тот, кто не мог выстоять в новых условиях после принятия Указа №222, уже ушел из ИП. Наши люди умеют приспосабливаться, умеют выживать в любых условиях, — считает экономист.

**СЕРГЕЙ ПИСКУН**
**ЗАВТРА ТВОЕЙ СТРАНЫ**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.11.2016 у 17.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.